# ЗМАГАЦЦА ЗА ПЯРШЫНСТВО У КОНКУРСЕ!

Асноўны посьпех будаўніцтва сацыялізму ў нашай краіне забясьпечваецца палітыкай рэканструкцыі нашай гаспадаркі, палітыкай індустрыялізацыі, разгортваньня вытворчасьці сродкаў вытворчасьці. Будуючыяся гіганты патрабуюць увозу з-за граніцы самага ўдасканаленага абсталяваньня, найбольш складаных мэханізмаў, якія мы яшчэ не вырабляем унутры нашай краіны.

Гэтыя патрабаваньні сацыялістычнай індустрыялізацыі нашай краіны можна задаволіць толькі ў тым выпадку, калі мы будзем выконваць наш экспартны плян, толькі ў тым выпадку, калі мы атрымаем валюту супроць тых тавараў, якія мы вывозім за межы нашай краіны.

У паведамленьні прэзыдыуму Саюзахотцэнтру сказана, што наш саюз атрымаў 5-ю прэмію па пушніне ў конкурсе IV квартала 1932 г. Гэта сьведчыць, што паляўнічыя арганізацыі Беларусі, за выключэньнем некаторых, здолелі арганізаваць па-сапраўднаму барацьбу за выкананьне пляну экспартнай пушніны 4-га кварталу.

Дасягнутыя посьпехі трэба замацаваць і на наступныя кварталы.

Асноўнай умовай выкананьня экспартнай праграмы на 1933 г. зьяўляецца тэрміновае, рэзкае ўзьняцьце тэмпаў экспартнай работы, максымальная актывізацыя ўсяго загатоўчага апарату, усіленьне кіраўніцтва раённых арганізацый загатоўчымі апаратамі, прыцягненьне да вырашэньня гэтай задачы шырокіх калгасных мас і беднякоў і серадзнякоўаднаасобнікаў. Толькі ў гэтым выпадку мы зможам разьлічваць на пасьпяховае выкананьне задач, пастаўленых Саюзахотцэнтрам перад паляўнічай каапэрацыяй Беларусі па выкананьні экспартнага пляну 1-га кварталу 1933 г., заняць першае месца ў конкурсе, абвешчаным Саюзахотцэнтрам на 1-ы квартал 1933 г.

Шырокім разгортваньнем сацспаборніцтва, актывізацыяй на перавыкананьне плянаў экспарту ўсей паляўнічай масы, вядучы правільную барацьбу за павышэньне якасьці загатаўляемай сыравіны і прэміяваньне лепшых ударных брыгад і асобных ударнікаў-паляўнічых—павінна зьявіцца магутным вагаром у вырашэньні задач па выкананьні экспартнага пляну I кварталу 1933 г.—першага ўдарнага году II пяцігодкі.

**Паляўнічыя! Справа гонару заняць першае месца ў конкурсе 1-га кварталу 1933 г.**

**Р. К.**

**САЮЗАХОТЦЭНТР**
1/I—33 г.
№ 51.
**г. Масква.**

## ПРАЎЛЕНЬНЮ БЕЛАРУСКАГА ПАЛЯЎНІЧАГА САЮЗУ

Ваш Саюз атрымаў 5-ю прэмію па пушніне ў конкурсе Саюзахотцэнтра IV квартала 1932 г. Гэта сьведчыць, што арганізацыі Беларусі занялі адно з перадавых месц у адказнай працы загатовак экспартнай пушніны і мехавога сыр'я, стаўшы прыкладам для адстаючых раёнаў.

Прэзыдыум Саюзахотцэнтра спадзяецца, што паляўнічыя арганізацыі Беларусі ня толькі замацуюць занятыя ў IV квартале 1932 г. пазыцыі, але разгорнуць бальшавіцкія тэмпы ў загатоўках экспартнага сыр'я яшчэ далей і сваёй узорнай працай, уступаючы ў сацыялістычнае спаборніцтва і бяручы на буксір адстаючыя зьвеньні сыстэмы, актывізуючы на перавыкананьне пляна ўсю каапэраваную паляўнічую масу сыстэмы, вядучы правільную барацьбу за павышэньне якасьці загатаўляемага сыр'я і ўзорную арганізацыю гаспадаркі, дабʼюцца першых месц у конкурсе, абвешчаным **Саюзахотцэнтрам** першага квартала 1933 г.—**першага году другой пяцігодкі.**

Старшыня Прэзыдыума **Кірыеўскі.**

Член Прэзыдыума **Рэшатаў.**

Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

# Паляўнічы Беларусі

№ 2 ЛЮТЫ 1933 г.

Орган Каапэрацыйна-прамысловага саюзу паляўнічых „БЕЛКАХОТСАЮЗ" г. Менск, Савецкая, 68

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ VII-ы год выданьня



## ПЯТНАЦЦАЦЬ ГОД РСЧА

**„З краіны слабой і непадрыхтаванай да абароны, Савецкі Саюз ператварыўся ў краіну, магутную ў сэнсе абароназдольнасьці, у краіну, гатовую да ўсякіх выпадковасьцяй, у краіну, здольную вытвараць у масавым маштабе ўсе сучасныя арудзьдзі абароны і забясьпечыць імі сваю армію ў выпадку нападу звонку" (СТАЛІН).**

Пятнаццацігодзьдзе РСЧА—гістарычная гадавіна. Яна супадае па часу з уступленьнем СССР у пяцігодку пабудовы бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва. Яна супадае па часу з нарастаньнем рэвалюцыйнага крызісу па той бок мяжы, у лягеры адміраючага капіталізму.

Рабоча-сялянская Чырвоная армія, а з ёю і ўся рабочая кляса нашай краіны прыходзяць да гэтай гістарычнай гадавіны з вялізарнейшымі дасягненьнямі на фронце мірнага сацыялістычнага будаўніцтва і ўмацаваньня абароназдольнасьці СССР.

Спаборніцтва двух сыстэм, двух сьветаў: краіны будуючагася сацыялізму і лягера, які канае ў ціскох нябачнага крызісу капіталізму,—вось зьмест найцікавейшага ў гісторыі чалавецтва пэрыяду, пэрыяду першай пяцігодкі. Вынікі гэтага пэрыяду з найвялікшай яскравасьцю вызначаюць будучую канчатковую перамогу сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі. Але з тым большай сілай расьце імкненьне адыходзячай, адміраючай клясы міжнароднай буржуазіі, сьцерці з твару зямлі першую сацыялістычную дзяржаву рабочай клясы, цытадэль сусьветнага Кастрычніка.

„Нельга ўяўляць справу так, што рабочая кляса аднэй з некалькіх краін будзе ісьці да сацыялізму і тым больш да камунізму, а капіталісты іншых краін будуць глядзець на гэта бястурботна і сядзець склаўшы рукі. Тым больш нельга ўяўляць, што рабочы ў капіталістычных краінах згодзіцца быць простым гледачом пераможнага разьвіцьця сацыялізму ў тэй ці іншай краіне. На самай справе капіталісты будуць рабіць усё залежачае ад іх для таго, каб задушыць такія краіны. На самай справе кожны сур'ёзны крок да сацыялізму тым больш да камунізму ў тэй ці іншай краіне няўхільна будзе суправаджацца нястрыманым парывам рабочае клясы капіталістычных краін да заваёвы дыктатуры і сацыялізму ў гэтых краінах" (Сталін).

Гэтыя словы правадыра сусьветнага пралетарыяту застануцца самым чоткім і яскравым вызначэньнем адносін двух сьветаў да канца існаваньня капіталістычнага ладу на тэй ці іншай частцы зямной кулі.

Пралетарыят Савецкай краіны, які разгортвае гіганцкае мірнае будаўніцтва, ніколі ня імкнуўся і ня імкнецца да ваенных заваёў. **СССР вядзе на працягу ўсяго свайго існаваньня нязьменную і актыўнейшую палітыку міру**. Па-ранейшаму: „Ваяваць мы ня зьбіраемся, але кляса нашай краіны адказвае на ўсе спробы, на ўсе правакацыі новай вайны: **Гэтую палітыку міру будзем весьці і надалей усімі сіламі, усімі сродкамі. Ні аднэй пядзі чужой зямлі ня хочам, але і свае зямлі, ні аднаго вяршка свае зямлі не аддамо нікому**" (Сталін).

Але складаючы гіганцкі і сьмелы плян свае першае пяцігодкі, рабочая кляса і яе партыя не маглі забыць ні аб шматлікіх спробах ваеннага нападу, ні аб гнюснай камэдыйнай балбатні аб разбраеньні, ні аб канкрэтных плянах, якія насьпяваюць у генэральным штабе сусьветнага імпэрыялізму. І аднэй з асноўных задач гэтага пяцігадовага пляну яны паставілі арганізацыю абароны краіны.

„Урэшце задача пяцігадовага пляну была ў тым, каб стварыць у краіне ўсе неабходныя тэхнічныя і эканамічныя прадумовы для максымальнага ўзьняцьця абароназдольнасьці краіны, якая дае магчымасьць арганізаваць рашучы адпор усім і ўсялякім спробам ваеннага нападу звонку" (Сталін, даклад аб'яднанаму пленуму ЦК і ЦКК 7 студзеня 1933 г.).

Гэта задача выканана. Пяцігадовы плян мы завяршылі за чатыры гады і 3 месяцы. „... Мы запоўнілі цалкам і поўнасьцю прабелы ў справе абароназдольнасьці краіны" (Сталін, там-жа).

Індустрыялізацыя краіны, стварэньне сучаснай цяжкай прамысловасьці на базе высокай тэхнікі, у асаблівасьці прамысловасьці машынабудаўнічай,—усё гэта забясьпечыла арганізацыю вытворчасьці ўсіх неабходных сучасных сродак абароны.

Народжаная ў жэрале грамадзянскай вайны, вырасшая ў баёх за свабоду і ўладу саветаў, Чырвоная армія забясьпечыла ў далейшым пралетарскай дзяржаве магчымасьць аднавіць разбураную

шматлікімі арміямі контррэвалюцыі і інтэрвэнцыі народную гаспадарку.

**„Чырвоная армія разьвівалася і расла разам з ростам пралетарскай дзяржавы, не адстаючы ад узроўню разьвіцьця вытворчых сіл краіны і яе тэхнікі“** (Варашылаў). І выкананая за 4 гады пяцігодка сацыялістычнага будаўніцтва прынесла Чырвонай арміі новае тэхнічнае ўзбраеньне, якое забясьпечвае ня толькі маральна-палітычную перавагу над арміямі імпэрыялістычных дзяржаў, але і перавагу чыста матар'яльную, перавагу высокай ваеннай тэхнікі.

Рабоча-сялянская Чырвоная армія здольна даць сакрушальны адпор усім узброеным спробам нападу на нашы межы і яна паказвае гэту сваю гатоўнасьць да пераможнага адпору ва ўсіх выпадках, калі імпэрыялістычныя драпежнікі захочуць спрабаваць магутнасьць нашых межаў. Па-ранейшаму: **„Ваяваць мы ня зьбіраемся, але ніколі і нікому не дазволім пасягнуць на цэласьць нашых граніц. Нашы межы сьвяшчэнны і нязрушны. Яны абліты рабоча-сялянскаю крывёю, і іх нікому, ніколі, ні пры якіх абставінах перайсьці мы не дазволім“** (Варашылаў).

Калі найбольш авантурыстычныя элемэнты міжнароднай буржуазіі спрабуюць праверыць сілу Чырвонай арміі, яны ўпэўняюцца ў магутнасьці яе адказных удараў.

Яны бачаць таксама, які шматмільённы, нявычарпальны рэзэрв маецца ў рабоча-сялянскай Чырвонай арміі Савецкага Саюзу—рабочыя асоавіяхімаўскія палкі. Ім здаецца за гэтымі радамі сініх блюз і чорных кепак Чырвоная гвардыя паўстаўшага пралетарыяту. Яны бачаць гэтыя ўзброеныя масы, гэтую неадлучную частку дзяржавы, „дзяржавы ўзброеных рабочых“ (Ленін) ідучай да новай эпохі гісторыі чалавецтва—да камуністычнага грамадзтва.



Ва ўсіх канцох Савецкага Саюзу ідзе шпаркая падрыхтоўка да вясеньняй пасеўнай кампаніі.

На здымку. Рамонт сеялкі да веснавой сяўбы ў Горы (Грузія).

Ня было і няма іншай арміі ва ўсім сьвеце, якая-б мела такую цесную кроўную сувязь з тэй клясай, інтарэсы якой яна абараняе, як Чырвоная армія. Яна плоць ад плоці рабочай клясы і працоўнага сялянства, краіну якіх яна ахоўвае ад ваеннай пагрозы. Рэзэрвы яе невычарпальныя.

Арганізатарам гэтых рэзэрваў зьяўляецца найшырэйшы, найпапулярнейшы атрад пралетарскай грамадзкасьці — Асоавіяхім. Першая пяцігодка, якая пабудавала фундамант сацыялістычнай эканомікі, стварыла несакрушальныя асновы эканамічнай незалежнасьці СССР і забясьпечыла ўмацаваньне абароназдольнасьці Савецкай краіны, стварыла з шматмільённага Асоавіяхіму баявы рэзэрв Чырвонай арміі.

Да пачатку другой пяцігодкі Асоавіяхім прышоў узрослым і ўмацаваным. Ён здолеў у асноўным стаць сапраўднай кузьняй пралетарскіх і калгасных кадраў абароны. Шмат яшчэ застаецца яму зрабіць. На некаторых вучастках яго работы маюцца ашчэ буйнейшыя недахопы і прарывы. Але пераход яго на рэльсы практычнай падрыхтоўкі працоўных у абароне краіны зьдзейсьнен пад кіраўніцтвам ленінскай партыі, і перад ім стаяць цяпер новыя, вялікія задачы замацаваньня гэтага пераходу ў тысячах і дзесятках тысяч сваіх ячэек, раскіданых па ўсей краіне Саветаў.

Асоавіяхім адзначае 15 год РСЧА падвядзеньнем вынікаў цэлага раду сваіх пачынаньняў і важнейшых кампаній. К гэтаму дню канчаецца спаборніцтва больш чым сотні заводаў і фабрых на атрыманьне пачэснага званьня магутнасьці абароны. У гэты дзень у кожным раёне будуць прэміяваны лепшыя, сапраўды баявыя ячэйкі АСО, якія прайшлі ўсесаюзны прагляд і закончылі сваю перабудову перавыбарамі свайго кіраўніцтва, лепшыя снайпэры, на якіх значная доля падае паляўнічых, як узброенага атраду насельніцтва і дасканалей знаёмага з тэхнікай стральбы. Абавязак кожнага паляўнічага-снайпэра навучыць сваіх таварышоў—працоўных—лепш страляць.

Адзначым XV гадавіну РСЧА новай хваляй сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва ў рабоце па ўмацаваньню абароны краіны.

**Перамагаючы шалёнае супраціўленьне аджываючых клясаў, у бязьлітаснай барацьбе з правым апартунізмам і яго адмеенасьцю, недаацэнкай ваеннай пагрозы і задач абароны, пад кіраўніцтвам ленінскай партыі і яе правадыра т. Сталіна мы пойдзем наперад да новых перамог, раўняючыся па лепшых, вядучых крэпасьцях абароны, пашырым і ўмацуем апору мірнай працы і абароны СССР—Асоавіяхім.**

Ён павінен быць і ён стане сапраўдным баявым рэзэрвам слаўнай і гераічнай Чырвонай арміі.

## Шчырае бальшавіцкае прывітаньне слаўнай Чырвонай арміі ад паляўнічых Беларусі

# АБ УМАЦАВАНЬНІ КАЛГАСАЎ

**(Пастанова ЦВК СССР па дакладу народнага камісара земляробства Саюзу ССР тав. ЯКАЎЛЕВА).**

## I. Вынікі калектывізацыі і палітыкі ліквідацыі кулацтва

У выніку ажыцьцяўленьня пяцігодкі за чатыры гады савецкая ўлада дабілася наступных посьпехаў:

1) замест 400 тыс. гаспадарак, аб'яднаных у 1928 г. у калгасы,—у 1932 годзе ў калгасах аб'яднана звыш 14,5 млн сялянскіх гаспадарак;

2) замест 2 млн гэктараў, засеяных калгасамі ў 1928 г. калгасы засеялі ў 1932 г. звыш 90 млн гэктараў, тады як кулакі, якія засявалі ў 1928 г. каля 15 млн гэктараў, будучы разгромлены і выбіты са сваіх вытворчых пазыцый, засеялі ў 1932 г. каля 1 млн гэктараў, дый то пераважна па другарадных сельскагаспадарчых раёнах Саюзу ССР;

3) ня менш 6 млн бядняцкіх бясконных гаспадарак, што ахапляюць каля 20 млн сялян і сялянак, якіх раней кулакі бязьлітасна эксплёатавалі і не давалі магчымасьці ўзьняцца, цяпер уступілі ў калгасы і сталі, як калгасьнікі, карыстацца машынамі, коньмі і трактарамі, недаступнымі ня толькі бядняцкай, але і серадняцкай аднаасобнай гаспадарцы;

4) пасеўная плошча Саюзу ССР вырасла з 1928 г. на 21 млн гэктараў, прычым калгасы і саўгасы здолелі дабіцца ня толькі такога пашырэньня плошчаў, але і адначасова асвоілі плошчу, якая раней засявалася кулакамі;

5) за чатыры гады арганізавана 2.446 МТС, засеяўшых у 1932 годзе больш 45 млн гэктараў;

6) пры крайнім адставаньні жывёлагадоўлі ў аднаасобнікаў і ў дварох калгасьнікаў створана магутная таварная калгасная жывёлагадоўля ў выглядзе 91 тыс. калгасных таварных фэрм, якія сканцэнтравалі да канца 1932 году 5,5 млн. штук рагатай жывёлы, 2,6 млн. шт. сьвіней і 5,6 млн. штук авец і коз.

Усё гэта азначае, што ў рэзультаце няўхільнага ажыцьцяўленьня наказаў Леніна, калектывізацыя ўсіх асноўных сельскагаспадарчых раёнаў Саюзу ССР у асноўным закончана: кулацтва разгромлена як кляса і вялізарная большасьць працоўнага сялянства вызвалена ад кулацкай кабалы і эксплёатацыі, падарваны карэньні капіталізму ў вёсцы, зьнішчана эканамічная аснова расслаяваньня сялянства і падарвана глеба, з якой выраслі ў вёсцы бесьпрасьветная беднасьць на адным баку і кулацкая эксплёатацыя—на другім баку; калгасы, як новая грамадзкая сацыялістычная форма арганізацыі працы ў сельскай гаспадарцы, перамаглі і шлях да старой, аднаасобнай гаспадаркі закрыт канчаткова. У выніку мы ўжо маем дзесяткі тысяч калгасаў, высока рэнтабельных (даходных), павысіўшых сваю тэхнічную ўзброенасьць, ураджайнасьць сваіх палёў і дабрабыт сваіх членаў да ўзроўню, зусім недаступнага ня толькі серадняку—аднаасобніку, але і кулацка-капіталістычнай гаспадарцы.

## II. Недахопы ў рабоце калгасаў

У рабоце калгасаў, як прадпрыемстваў новых, толькі нядаўна створаных, прытым створаных ва ўмовах культурнай і тэхнічнай адсталасьці вёскі, яшчэ ёсьць буйныя недахопы, якія перашкаджаюць савецкай дзяржаве і калгаснаму сялянству выкарыстаць адразу ўсе перавагі грамадзкай формы арганізацыі працы.

Галоўнейшыя з гэтых недахопаў заключаюцца ў наступным:

1) калгасы арганізацыйна яшчэ не ўмацаваны, праца і работа ў калгасе дрэнна арганізаваны, улік працы і выпрацоўкі, без чаго ня можа існаваць калгасная гаспадарка, у большасьці выпадкаў пастаўлен нездавальняюча;

2) ня гледзячы на тое, што перавагі калгасаў у галіне прадукцыйнасьці працы ўжо праявіліся ўсюды, большая частка калгасаў з-за дрэннай арганізацыі працы і вытворчасьці пакуль яшчэ ня зусім рэнтабельна;

3) яшчэ ня створана і не ўмацавана новая грамадзкая працоўная дысцыпліна ў калгасах;

4) рэшткі кулацтва, разгромленага ў рэзультаце калектывізацыі і правядзеньня палітыкі ліквідацыі кулацтва, але яшчэ не дабітага,—ва многіх раёнах, пралезьлі ў калгасы, пралезьлі ў апарат кіраўніцтва калгасамі і прабуюць разбурыць калгасы з сярэдзіны шляхам шкодніцтва, псаваньня машын, зьнішчэньня коняй, раскрадваньня калгаснага дабра, сабатажу выкананьня заданьняў дзяржавы.

Гэтыя супроцькалгасныя, кулацкія элемэнты стараюцца шляхам празьмернага і рвацкага раздуваньня ўсякіх спажывецкіх, кармовых і іншых фондаў у калгасах, шляхам дэмагагічнага патаканьня рвацкім настроям адсталай часткі калгасьнікаў і, значыцца, шляхам зруйнаваньня грамадзкай асновы калгаснай вытворчасьці, — падарваць эканамічна і разбурыць калгасы.

На руку гэтым кулаком і шкоднікам граюць лодыры, якія не жадаюць працаваць, раскрадвальнікі, якія разглядаюць грамадзкую маемасьць як матар'ял для пакраж, і ў радзе выпадкаў камуністы, што патакаюць падобным элемэнтам, адносяцца да іх з паблажкай і пакрываюць іх;

5) калгасны актыў як партыйны, так і беспартыйны яшчэ недаволі загартаваны ў адносінах да клясавага ворага і часта ня ўзброен рэвалюцыйнай пільнасьцю; калгасны актыў дрэнна арганізован, недаволі згуртаваны, зусім невыстарчальна змагаецца за стварэньне ў калгасе сьвядомай большасьці і ўмацаваньне калгасу, як сацыялістычнай формы гаспадаркі. Калгасныя кадры ў сваёй вялізарнай большасьці яшчэ нявопытныя не авалодалі тэхнікай, арганізацыяй і агранаміяй буйнай грамадзкай гаспадаркі;

6) мясцовыя краявыя, абласныя і раённыя зямельныя органы і МТС ня сталі яшчэ ў большасьці выпадкаў апэрацыйнымі арганізатарамі вытворчасьці ў калгасах, ва многіх выпадках засьмечаны антысавецкімі і шкодніцкімі элемэнтамі, ня ведаюць як належыць быту калгасаў свайго раёну і ня здолелі яшчэ перайсьці ад задачы арганізацыі новых прадпрыемстваў у земляробстве да задачы арганізацыйнага і гаспадарчага наладжваньня калгасаў ужо існуючых.

## III. Чарговыя задачы ў галіне арганізацыйнага ўмацаваньня калгасаў

1. Без устанаўленьня цьвёрдай працоўнай дысцыпліны немагчыма ўмацаваньне калгасаў і сапраўды шпаркі рост дабрабыту калгасьнікаў.

VI зьезд саветаў Саюзу ССР у адпаведнасьці

з вучэньнем Леніна, пастанавіў прыстасаваць у калгасах асноўнае сацыялістычнае правіла: „хто не працуе, той ня есьць“. За час, прайшоўшы з 6-га зьезду Саветаў, калгасы прасунуліся наперад у справе ўмацаваньня грамадзкай працоўнай дысцыпліны, у асаблівасьці ў раёнах Татарыі, Маскоўскай вобласьці, ЦЧВ, Сярэдняй Волгі, Заходняй Сібіры, Крымскай АССР і Кабардына-Балкарскай аўт. вобласьці, пры адставаньні раду раёнаў, у асаблівасьці Паўночнага Каўказу, Украіны, Ніжняй Волгі, Казакстану і Далёка-Ўсходняга краю.

Яшчэ ў 1919 годзе **Ленін пісаў:**

„Асаблівая вялікую ўвагу зьвярнуць на разьвіцьцё і ўмацаваньне таварыскай дысцыпліны працоўных і ўсебаковае павышэньне іх самадзейнасьці і ўсьведамленьня адказнасьці. У гэтым заключаецца галоўнейшы, калі не адзіны сродак канчаткова перамагчы капіталізм і прывычкі, створаныя панаваньнем прыватнай уласнасьці на сродкі вытворчасьці“ (Ленін, т. XXIV, стар. 101).

У адпаведнасьці з гэтым указаньнем Леніна і ў мэтах дапамогі сумленным калгасьнікам, рэзультаты работы якіх ва многіх выпадках зрываюцца лодырамі, дармаедамі і раскрадвальнікамі калгаснага дабра,—Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу ССР пастанаўляе:

1. Дапоўніць прыкладны статут сельскагаспадарчай арцелі наступным пунктам:

**„У выпадку адмаўленьня члена калгасу па няўважлівых прычынах ад выкананьня даручанай яму калгасам работы праўленьне калгасу абавязана аштрафаваць яго ў колькасьці да пяці працадзён, а пры паўторным адмаўленьні — выключыць яго з калгасу“.**

2. Без найстражэйшага кантролю над мерай працы кожнага калгасьніка і яго доляй у агульным даходзе, без найстражэйшага ўліку маемасьці калгасу і яго прадукцыі ня можа быць і гутаркі аб гаспадарчым умацаваньні калгасаў і росьце дабрабыту калгасьнікаў.

**Ленін гаворыць:**

„Рабочыя і сяляне, працоўныя і эксплёатаваныя! Зямля, банкі, фабрыкі, заводы перайшлі ва ўласнасьць усяго народу. Бярэцеся самі за ўлік і кантроль вытворчасьці і разьмеркаваньне прадуктаў, — у гэтым і толькі ў гэтым шлях да перамогі сацыялізму, зарука яго перамогі, зарука перамогі над усякай эксплёатацыяй, над усякай галечай і ўбоствам. Бо ў Расіі хопіць хлеба, жалеза, лесу, воўны, бавоўны і ільну на ўсіх, толькі-б правільна разьмеркаваць працу і прадукты, толькі-б устанавіць усенародны дзелавы, практычны кантроль за гэтым разьмеркаваньнем, толькі-б перамагчы ня толькі ў палітыцы, але і ў штодзенным эканамічным жыцьці ворагаў народу: багатых, іх прыхлябальнікаў, потым жулікаў, дармаедаў і хуліганаў“.

„Ніякай літасьці гэтым ворагам народу, ворагам сацыялізму, ворагам працоўных. Вайна не на жыцьцё, а на сьмерць багатым і іх прыхлябальнікам, буржуазным інтэлігентам, вайна жулікам, дармаедам і хуліганам“.

„Багатыя і жулікі, гэта—два бакі аднаго мэдалю, гэта—два галоўныя разрады чужаедаў, ускормленых капіталізмам, гэта—галоўныя ворагі сацыялізму, гэтых ворагаў трэба ўзяць пад асобны нагляд усяго насельніцтва, з імі трэба распраўляцца, пры малейшым парушэньні імі правіл і законаў сацыялістычнага грамадзтва, бязьлітасна. Усякая слабасьць, усякія хістаньні, усякае сантымэнтальніцтва ў гэтых адносінах было-б найвялікшым злачынствам перад сацыялізмам“ (Ленін, т. XXII, стар. 164—„Як арганізаваць спаборніцтва“).

Выходзячы з гэтага Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу ССР пастанаўляе:

а) абавязаць праўленьні калгасаў ставіць на пасады рахункаводаў, бухгальтароў, вагаўшчыкоў і ўсіх ведаючых улікам калгаснай маемасьці, людзей сумленных, правераных, адданых справе савецкай улады і калгасам, людзей, няздольных ашукваць калгасы і дзяржаву;

б) усякае ашуканства ў справе ўліку калгаснай прадукцыі і калгаснага ўраджаю павінна разглядацца, як дапамога кулаку і антысавецкім элементам, як спроба раскрадваньня калгаснай маемасьці,—з прычыны чаго павінен карацца па закону аб ахове маемасьці дзяржаўных прадпрыемстваў, калгасаў і каапэрацыі і ўмацаваньні грамадзкай (сацыялістычнай) уласнасьці ад 7 жніўня 1932 г. (З. З. Саюзу ССР 1932 г. № 62, арт. 360);

в) на працягу 1933 г. павінна быць праведзена грамадзкая праверка і чыстка калгасных рахункаводаў, загадчыкаў гаспадаркай і кладаўшчыкоў у калгасах.

Калгасны рахункавод павінен надалей назначацца праўленьнем калгасу і зацьверджаецца ў сваёй пасадзе раённым выканаўчым камітэтам.

### 3. Ленін гаварыў:

**„Прадукцыйнасьць працы—гэта ў апошнім разрахунку самае важнае, самае галоўнае для перамогі новага грамадзкага ладу“ (Ленін, том XXIV, стар. 342).**

У адпаведнасьці з гэтым, а таксама з вопытам лепшых калгасаў, якія ўжо дабіліся значнага павышэньня прадукцыйнасьці працы, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу ССР даручае Народнаму Камісарыяту Земляробства Саюзу ССР:

а) устанавіць прыкладную ацэнку ў працаднёх розных сельскагаспадарчых работ, прадугледзеўшы павышэньне расцэнак працы на складаных уборачных машынах, аратых, сейбітаў, цяжкай або кваліфікаванай ручной працы на ўборцы і міжрадковай апрацоўцы;

б) у сувязі з увядзеньнем севазвароту правесьці, як правіла прымацаваньне вучасткаў у палёх севазвароту да пастаянных калгасных паляводчых брыгад на тэрмін севазвароту;

в) устанавіць на важнейшыя сельскагаспадарчыя работы прыкладныя нормы выпрацоўкі, даступныя сярэдняму калгасьніку, з тым, каб нормы выпрацоўкі ў кожным калгасе ўстанаўляліся канчаткова праўленьнем калгасу з зацьверджаньня агульнага сходу калгасьнікаў, у адпаведнасьці з асаблівасьцямі калгасу, станам цягі, машын, характарам глебы і г. д.;

г) устанавіць гранічныя нормы расходаў у калгасах на адміністрацыйна-кіраўнічы апарат і правесьці рашучае скарачэньне накладных расходаў у калгасах;

д) праводзіць са ўсёй строгасьцю існуючае зараз у добрых калгасах правіла, згодна якога адміністрацыйны апарат калгасу атрымлівае натурай за выпрацаваныя ім працадні ў разьмерах, ня вышэй устаноўленых для добрых калгасьнікаў, працуючых у паляводзтве.

Разам з тым Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу ССР забараняе партыйным і савецкім арганізацыям раёнаў і вёсак абавязваць калгасы прымаць на снабжэньне людзей, ня маючых ніякіх, ні ўкосных, ні непасрэдных адносін да калгаснай вытворчасьці.

4. У сувязі з тым, што карэннай задачай сельскагаспадарчай вытворчасьці на цяперашняй стадыі разьвіцьця, як гэта ўстаноўлена вядомай пастановай СНК Саюзу ССР і ЦК УсеКП(б) ад 27 верасьня 1932 г. зьяўляецца павышэньне ўраджайнасьці палёў, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу ССР пастанаўляе:

а) ухваліць цалкам мерапрыемствы партыі і ўраду па скасаваньні існуючай дагаворнай (контрактацыйнай) сыстэмы загатовак па збожжы і ўстанаў-

леньні цьвёрдых абавязацельстваў па здачы збожжа, маючых сілу падатку. Замена контрактацыі пастаўкамі, выкананьне якіх зьяўляецца першачарговым абавязкам кожнага калгасу, калгасьніка і аднаасобнай гаспадаркі, пакідае ў поўным распараджэньні калгасу, калгасьнікаў і аднаасобнікаў усё збожжа пасьля выкананьня абавязацельстваў па падатку. Тым самым забясьпечваецца далейшы рост зацікаўлецасьці калгасаў і калгасьнікаў у павышэньні ўраджайнасьці;

б) на працягу 1933 году павінны быць ва ўсіх калгасах уведзены севазвароты і ў 1934 г. увесь пасеў павінен разьмяшчацца на палёх, згодна ўведзенага севазвароту.

Севазвароты, якія ўводзяцца, павінны забясьпечыць абавязковае захаваньне існуючых разьмераў збожжавага кліну, а ў радзе раёнаў—рост збожжавага кліну, пасеў добрых папярэднікаў перад збожжавымі, пропуск засьмечаных земляў праз папар, рост кармовай базы для жывёлагадоўлі, зьмяншэньне нагрузкі тэхнічнымі і прапашнымі культурамі ў збожжавых абласьцях пры адначасовым росьце іх ураджайнасьці.

Справа захаваньня агранамічных правіл павінна перастаць быць прыватнай справай асобных калгасаў. У кожным раёне раённымі выканаўчымі камітэтамі з зацьвярджэньня краявых зямельных органаў павінны быць устаноўлены абавязковыя для ўсіх калгасаў, калгасьнікаў і аднаасобнікаў агранамічныя правілы, незахаваньне якіх павінна карацца вымовай, натуральным і грашовым штрафам, грамадзкім ганьбаваньнем, а ў адносінах злосных парушальнікаў, што псуюць дзяржаўную зямлю,—іншымі, больш сур'ёзнымі спагнаньнямі.

5. Машына-трактарныя станцыі (МТС) зьяўляюцца важнейшым вагаром тэхнічнага пераўзбраеньня калгасаў і сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі.

Гэту задачу МТС выканаюць толькі ў тым выпадку, калі яны на практыцы палепшаць сваю ўласную гаспадарку і будуць сыстэматычна дапамагаць калгасам у справе іх арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня.

Між тым ва многіх МТС адсутнічае элемэнтарны парадак у справе арганізацыі сваёй гаспадаркі і выкарыстаньня трактароў і машын, у выдатакваньні гаручага, у справе нагляду за тэхнічным станам трактарнага парку, працягваюцца злачынна-нядбайныя адносіны да заданьняў партыі і ўраду па забясьпячэньні аховы і беражлівых адносін да дзяржаўнай маемасьці. Абслугоўваньне калгасаў па лініі агранамічнай у большасьці МТС пастаўлена зусім нездавальняюча і адсутнічаюць належныя клопаты аб павышэньні ўраджайнасьці калгасных палёў, што абслугоўваюцца МТС.

З прычыны гэтага Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу ССР пастанаўляе:

а) даручыць Наркамзему Саюзу СССР забясьпечыць паляпшэньне агранамічнага абслугоўваньня калгасаў з боку МТС, у асаблівасьці па лініі якасьці апрацоўкі зямлі, дзе роля МТС ужо вельмі вялікая, даючы адпор шкоднай тэорыі перавагі дробнага ворыва. Вытворчы плян і практычная работа МТС надалей павінны прадугледжваць па кожным з калгасаў, што абслугоўваюцца МТС, правядзеньне неабходных мерапрыемстваў па зьнішчэньні пустазельля, на ачыстцы і пратручваньні насеньня, па забеспячэньні неабходнай глыбіні ўзорваньня на засьмечаных землях, па вывазцы гною на палі, па паляпшэньні выкарыстаньня мінэральных угнаеньняў, па захаваньні ўстаноўленых норм высеву, па палепшаньні воднай гаспадаркі на паліўных землях, па барацьбе са стратамі, маючы на ўвазе, што за захаваньне калгасамі, якія абслугоўваюцца МТС, абавязковых агранамічных правіл адказвае непасрэдна машына-трактарная станцыя. Асаблівую ўвагу МТС абавязаны сканцэнтраваць на ўвядзеньні правільных севазваротаў;

б) абавязаць НКЗем Саюзу ССР устанавіць тэхнічныя правілы эксплёатацыі папераджальнага і бягучага рамонту трактароў, забясьпечыць вылучэньне адказных асоб па кожнай МТС за стан трактараў і машын і арганізаваць сапраўды апэрацыйны кантроль за работай МТС у галіне выкарыстаньня і ўтрыманьня трактарнага парку з тым, каб за дрэннае ўтрыманьне машын і іх выкарыстаньне работнікі МТС адказвалі па ўсёй строгасьці закону аб ахове грамадзкай уласнасьці;

в) скасаваць зараз існуючую сыстэму аплаты калгасамі работ МТС па цьвёрдаўстаноўленых расцэнках і перайсьці да ацэнкі кожнай з работ, што праводзяцца МТС для калгасаў, у пэўных процантах ад ураджаю і да аплаты гэтых работ калгасамі натурай з выробленай прадукцыі. Тым самым будзе ўзмоцнена непасрэдная зацікаўленасьць МТС у павышэньні ўраджайнасьці ў калгасах і іх непасрэдная матар'яльная адказнасьць за стан вытворчасьці ў калгасах;

г) ухваліць цалкам пастанову партыі і ўраду аб арганізацыі палітаддзелаў МТС; пры дапамозе якіх МТС ператвораца ў цэнтры як гаспадарчатэхнічнага, так і палітычна-арганізацыйнага кіраўніцтва і ўплыву на шырокія масы калгасьнікаў.

6. Правядзеньне пастаўленых задач па арганізацыйным умацаваньні калгасаў немагчыма без усямернага ўзмацненьня работы па пашырэньні і паляпшэньні падрыхтоўкі агранамічных і тэхнічных кадраў МТС, асабліва трактарыстаў, мэханікаў і работнікаў на складаных уборачных машынах, без умацаваньня працоўнай дысцыпліны ў прадпрыемствах і ўстановах МТС зьнізу даверху, без забясьпячэньня на справе правільнай расстаноўкі кіруючых кадраў і ажыцьцяўленьня сапраўднай праверкі выкананьня даных ім заданьняў.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу ССР ускладае на Наркамзем Саюзу ССР і яго мясцовыя органы асаблівую адказнасьць за паляпшэньне пастаноўкі справы ў сельскагаспадарчых ВНУ і тэхнікумах, а таксама за арганізацыю ў неабходных выпадках курсаў пры раёнах і пры МТС па падрыхтоўцы і павышэньні агранамічнай, тэхнічнай і палітычнай кваліфікацыі брыгадзіраў і ўдарнікаў калгаснай працы, чаму павінны аказваць усякае падтрыманьне мясцовыя саветы і выканаўчыя камітэты.

7. Хоць роля аднаасобнікаў у сельскагаспадарчай вытворчасьці Саюзу ССР адсунута пераможным разьвіцьцём калектывізацыі на задні плян — аднаасобнікі ўсё-ж засяваюць каля аднэй пятай часткі ўсіх сялянскіх пасеўных плошчаў па Саюзе ССР.

Выходзячы з гэтага Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу ССР пастанаўляе:

а) папярэдзіць усе савецкія арганізацыі аб недапушчальнасьці ігнараваньня аднаасобнікаў пры выкананьні пасеўнага пляну і абавязацельстваў па здачы прадукцыі дзяржаве. Кожны аднаасобнік,

які захоўвае права карыстаньня дзяржаўнай зямлёй, абавязан выканаць установленыя для яго мясцовым саветам плян пасеву, абавязацельствы па здачы прадукцыі дзяржаве;

б) у адносінах аднаасобнікаў, што ўдарыліся ў спэкуляцыю і ўпарта адмаўляюцца апрацоўваць і засяваць землі, якія яны займаюць, як гэта мела месца ў некаторых раёнах Паўночнага Каўказу, мясцовыя органы ўлады павінны прымаць суровыя меры, аж да пазбаўленьня прысядзібнай зямлі, а ў асобных выпадках, як крайнюю меру—да высылкі за межы краю ў месцы менш урадлівыя;

в) ухваліць практыку лепшых калгасаў, якія з усей строгасьцю адносяцца да прыёму ў калгасы новых членаў. Прыём новых членаў у калгасы можа праводзіцца толькі пры ўмове, калі аднаасобнік, уступаючы ў калгас, добрасумленна выканаў вытворчыя заданьні і абавязацельствы па здачы прадукцыі дзяржаве і здае ў калгас свайго каня і насеўны матар'ял, які прыходзіцца на яго долю.

8. Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу ССР папярэджвае кіруючыя кадры МТС, калгасаў і ўсіх адданых савецкай уладзе калгасьнікаў, што ў часе збору насеньня і веснавой пасеўнай кампаніі ў радзе раёнаў яшчэ могуць паўтарыцца факты кулацкага сабатажу і шкодніцтва. Задачай усяго кіруючага складу МТС і калгасаў зьяўляецца зламаць сабатаж кулакоў і шкоднікаў, якія зрываюць збор насеньня, арганізуюць раскрадваньне насеньня, псуюць ворыва і сяўбу, наўмысна зацягваюць сяўбу ў мэтах размнажэньня пустазельля, якія ламаюць трактары і машыны, губяць коняй.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу ССР настанаўляе:

Ужыць да асоб, заўважаных у сабатажы сельскагаспадарчых работ, пакражы насеньня, у шкодніцкім перамяншэньні норм высеву, шкодніцкай рабоце па ворыве і сяўбе, якая вядзе да псаваньня палёў і зьніжэньня ўраджаю, у наўмыснай паломцы трактараў і машын, у зьнішчэньні коняй, як да раскрадальнікаў калгаснай уласнасьці пастаноў ад 7 жніўня 1932 году аб ахове грамадзкай уласнасьці.

* * *

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу ССР абавязвае ўсе выканаўчыя камітэты, саветы і зямельныя органы, МТС і калгасы неадкладна пераключыцца на работу па падрыхтоўцы да сяўбы, маючы на ўвазе, што толькі ўзброіўшыся рэвалюцыйнай пільнасьцю ў адносінах да клясавага ворага, уцягваючы ў сацспаборніцтва і ўдарніцтва новыя мільёны калгасьнікаў, МТС, калгасы і працоўныя аднаасобнікі здолеюць пад кіраўніцтвам савецкай улады з посьпехам ажыцьцявіць стаячую перад імі задачу поўнага выкананьня пляну веснавой пасеўнай кампаніі і забесьпячэньня павышэньня ўраджайнасьці.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР **М. Калінін.**

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР **А. Енукідзэ.**

Масква, Крэмль
30 студзеня, 1933 году.

# Трактарнаму парку—баявую гатоўнасьць

Падводзячы вынікі буйнейшых перамог палітыкі партыі ў сацыялістычнай перабудове сельскай гаспадаркі, тав. Сталін у сваім дакладзе аб выніках першай пяцігодкі на пленуме ЦК і ЦКК УсеКП(б) падкрэсьліў, што зараз **галоўная задача заключаецца ня ў тэмпах далейшай калектывізацыі, не ў далейшым пашырэньні пасеўных плошчаў, а ў стварэньні высокай прадукцыйнасьці сельскагаспадарчай працы, у стварэньні высокай і ўстойлівай ураджайнасьці сацыялістычных палёў.**

Праблема павышэньня ўраджайнасьці зьяўляецца цэнтральнай праблемай чацьвертай бальшавіцкай вясны, вясны першага году другой пяцігодкі. Няма ніякага сумненьня, што МТС—буйнейшыя вагары пралетарскага кіраўніцтва на вёсцы, вагары ня толькі тэхнічнага, але і агранамічнага і арганізацыйна-гаспадарчага і палітычнага кіраўніцтва калгасамі,—павінны быць прыведзены ў поўную баявую гатоўнасьць.

Бо цэнтральная праблема сельскай гаспадаркі — **праблема ўзьняцьця ўраджайнасьці**—канцэнтруецца ў цэнтральным вузьле барацьбы за ўраджайнасьць, за правядзеньне высокаякаснай сяўбы ў максымальна кароткія тэрміны. А калі гэта так, то ўвесь трактарны парк павінен ва ўсеўзбраеньні сустрэць першую бальшавіцкую вясну другой пяцігодкі. **Баяздольны трактарны парк, гэта такая-ж рашучая прадпасылка для пасьпяховага правядзеньня сяўбы, як і 100-проц. выкананьне збожжазагатовак і 100-проц. ссыпка насенных фондаў.**

Своячасовае заканчэньне рамонту трактароў поруч са зборам насенных фондаў — баявая задача, якая вызначае пасьпяховае правядзеньне вясеньняй пасеўнай кампаніі. З кожным годам усё узрастае доля мэханічнай апрацоўкі палёў. Трактар становіцца рашаючай сілай у сельскай гаспадарцы, што ніяк ня здымае задачы рашучай барацьбы з недаацэнкай каня.

Трактарны парк—гэта вялікая, складаная гаспадарка. Узорна яе ўтрымоўваць — першачарговы абавязак тых людзей, якім пралетарская дзяржава даручыла гэту справу.

Гераічнай работай за якія-небудзь тры—чатыры гады пралетарыят Савецкага Саюзу пабудаваў лепшую ва ўсім сьвеце трактарную прамысловасьць. І ці-ж ня ясна, які пачэсны абавязак ляжыць на работніках сацыялістычнага земляробства навучыць калгасьнікаў беражлівым, сацыялістычным адносінам да дзяржаўнай маемасьці, выхаваць іх на прыкладах работы МТС і саўгасаў.

Але па шмат якіх МТС і саўгасах рамонт вытвараецца абы хутчэй, недастаткова спрактыкаваныя трактарысты, у асяродзьдзе якіх, акрамя таго, дзе-ні-дзе пралезьлі і клясавыя ворагі,—гэта вялікія мінусы для тэмпаў і якасьці рамонту. На калгасных палёх ужо працуе 1453 трактары ў 59 МТС. БССР становіцца краінай мэханізаванай сельскай гаспадаркі. Але рост мэханізацыі ставіць выключныя патрабаваньні да арганізацыі работы машын, каб скарыстаць іх з найбольшай прадукцыйнасьцю. Бо цэнтральная праблема сельскае гаспадаркі—праблема ўзьняцьця ўраджайнасьці—ня можа быць вырашана без рашучага павышэньня прадукцыйнасьці сельскагаспадарчай працы, без найбольш эфэктыўнага скарыстаньня прадукцыйных сіл МТС і калгасаў.



Упакованы экспартны заяц (база Саюзпушніны).

Не падлягае ніякаму сумненьню, што асноўнай прычынай нездавальняючай работы трактарнага парку зьяўляецца нізкая кваліфікацыя трактарыстаў. У выніку каштоўнейшыя машыны выходзяць з строю іншы раз дзесяткамі. Дастаткова зрабіць спасылку хаця-б на мінулы сельскагаспадарчы год, калі процант паломак і прастояў асабліва ўзрос, каб упэўніцца ў тым, што задача ашчаднага выкарыстаньня, хаваньня і добраякаснага рамонту трактараў стала ва ўвесь рост.

Ня гледзячы на тое, што рамонт трактароў пачаўся яшчэ з восені, колькасьць адрамантаваных трактароў мізэрна нізкая. Першыя весткі з рамонтных цэхаў ужо выклікаюць трывогу. На 12 лютага па БССР адрамантавана толькі 21 проц. заданьня. Па саўгаснай сыстэме становішча яшчэ горшае. Колькасьць адрамантаваных трактароў на 12-II—33 г. нікчэмная, усяго толькі 19 проц. Дрэнна абстаіць справа і з рамонтам сельскагаспадарчага інвэнтару. На 12 лютага г. г. адрамантавана трактарных плугоў на 35 проц., трактарных сеялак—на 30 проц.

Лічбы гавораць самі за сябе. На месцах не адчуваюць адказнасьці за выпуск у тэрмін сапраўды добраякасна адрамантаваных трактароў, за выпуск у тэрмін запасных частак, за скарыстаньне ўсіх унутраных рэсурсаў (Рэчыцкая МТС—12 проц., Менская—15 проц., Барысаўская—8 проц.). Прарыў у рамонце трактароў — рэзультат апартуністычнай бязьдзейнасьці людзей, якія нясуць прамую адказнасьць за гэту справу.

Да гэтых людзей як нельга лепш падыходзіць характарыстыка тав. Сталіна, даная ім у сваёй прамове аб рабоце на вёсцы: „сядзяць людзі ў канцэлярыях і самазадаволена рыпяць пер'ямі, не заўважаючы, што разьвіцьцё калгасаў ідзе міма бюрократычных канцэлярый“.

Вядома, што рамонт трактароў ускладняецца радам труднасьцяй—не хапае запасных частак і розных матар'ялаў. Але гэтыя труднасьці можна перамагчы. Неабходна толькі больш выразнае, сапраўды апэрацыйнае кіраўніцтва рамонтнай кампаніяй.

Ад своечасовай і добраякаснай падрыхтоўкі трактарнага парку будзе залежаць пасьпяховасьць палявых работ. А плян пасеву яравых на 1933 г. патрабуе концэнтрацыі ўсіх сіл для пасьпяховага заканчэньня яго. Нам трэба засеяць увесну 1933 г. 2.680 тыс. *га*, з іх: для калгасаў—1.255 тыс. *га*, для аднасобнага сэктару—1.295 тыс. *га* і саўгасаў—160 тыс. *га*.

Ці зможам мы гэты плян выканаць без належнай падрыхтоўкі і скарыстаньня трактарнага парку? Бязумоўна, не.

Партыйныя арганізацыі павінны прылажыць усе сілы, каб пасунуць наперад усе рамонтныя работы і ўзяць прапушчанае. Выпрабаваным сродкам зьяўляецца разгортваньне сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва ў МТС, саўгасах і калгасах. Толькі тады, калі ўзьняты масы, можна дасягнуць посьпеху. І першачарговым абавязкам партыйных арганізацый становіцца задача арганізаваць уздым вытворчай актыўнасьці мас. Кожны рабочы майстэрні павінен уразумець, што ён творыць вялікую справу, рыхтуе посьпех першай вясны другой пяцігодкі. Кожная справа залежыць ад людзей. Людзі вырашаюць посьпех рамонту. Людзі павінны ведаць, што яны ня ўнікнуць адказнасьці, калі нядобрасумленна працавалі. У майстэрнях павінна панаваць жалезная дысцыпліна. Прагульшчыкі, гультаі і лятуны павінны адчуць усю бязьлітаснасьць барацьбы з разгільдзяйствам.

Усё бліжэй і бліжэй вясеньняя пасеўная кампанія. Зараз, як ніколі павінна быць пасілена масавая работа вакол рамонту трактароў і ўсіх сельскагаспадарчых машын, збору насеньня і ачысткі калгасаў ад кулакоў і лодараў. Вось што павінна быць у цэнтры масавай работы.

**Шырэй сацыялістычнае спаборніцтва, вышэй сьцяг ударніцтва!**

**Пад агонь самакрытыкі ўсе вучасткі работы на фронце сацыялістычнага земляробства!**

**Р. К—і.**



Склад гатовых мехавых вырабаў (база Саюзпушніны).

**Самацёк зараз больш, чым калі-небудзь небясьпечны для справы разьвіцьця сельскай гаспадаркі, самацёк зараз можа пагубіць усю справу** (З прамовы тав. Сталіна на аб'яднаным пленуме ЦК і ЦКК УсеКП(б)

# ЗМЫЦЬ ПЛЯМУ ПРАРЫВУ! ПЕРАВЫКАНАЦЬ ПЛЯН ПУШМЕХЗАГАТОВАК ПЕРШАГА КВАРТАЛУ 1933 г.

Посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва БССР і ўсяго СССР патрабуюць шырокага прытоку сродкаў для будаўніцтва сацыялізму. Задача, пастаўленая партыяй і ўрадам перад сыстэмай паляўнічай каапэрацыі аб пасіленьні тэмпаў загатоўкі пушніны і мехсыравіны і палепшаньні якасьці гэтай прадукцыі—баявая задача кожнай брыгады паляўнічых, паляўнічага, калгасьніка і аднаасобніка—бедняка і серадняка.

У гэтым напрамку сыстэма паляўнічай каапэрацыі за 1932 г. мае вялікія дасягненьні ў параўнаньні з мінулым годам. Калі мы ў 1931 г. ня мелі дакладнага ўліку, была дрэнна наладжана справаздачнасьць райтаварыстваў, дык на сёнешні дзень мы ўжо можам сказаць колькі ў нас членаў каапэрацыі, колькі загатовіў той ці іншы раён пушніны і мехсыравіны, а таксама значна палепшылася справаздачнасьць па фінансавай часьці райтаварыстваў, плян мабілізацыі сродкаў перавыканалі.

Але ня ўсе райтаварыства ўразумелі важнасьць сталага і дакладнага ўліку загатоўленай імі пушніны і мехсыравіны. Нельга цярпець такога становішча, што мы маем разыходжаньне з прыёмачным пунктам пушмехсыравіны Саюзпушніны на дзесяткі тысяч рублёў (20 тыс. руб.), што ўвогуле дае зьніжэньне процанту выкананьня пляну. Адсюль вынікае, што ня ўсе райтаварыствы дасылаюць зьвесткі Белкахотсаюзу па загатоўленай пушмехсыравіне.

Другі пленум Белкахотсаюзу рашуча папярэдзіў райтаварыствы аб неабходнай, дакладнай і своечасовай дасылцы ўсіх зьвестак ня толькі па загатоўках, але і па арганізацыі паляўнічай гаспадаркі і інш.

Згодна пастановы II-га пленуму Белкахотсаюзу ад 9—11 лютага 1933 г., раённыя таварыствы, якія шырока разгарнулі сацыялістычныя мэтады работы—сацспаборніцтва і ўдарніцтва—і перавыканалі пляны пушмехзагатовак, **занесены на чырвоную дошку:**




| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Аршанскі | выкана | плян | на | 168,3 | проц. |
| 2. | Дзяржынскі | „ | „ | „ | 139,9 | „ |
| 3. | Шклоўскі | „ | „ | „ | 137,1 | „ |
| 4. | Прапойскі | „ | „ | „ | 120,0 | „ |
| 5. | Расонскі | „ | „ | „ | 110,9 | „ |
| 6. | Глускі | „ | „ | „ | 107,2 | „ |
| 7. | Вушацкі | „ | „ | „ | 105,6 | „ |
| 8. | Асіпавіцкі | „ | „ | „ | 103,6 | „ |
| 9. | Барысаўскі | „ | „ | „ | 103,2 | „ |
| 10. | Жлобінскі | „ | „ | „ | 100,0 | „ |

Другі пленум Белкахотсаюзу адзначыў, што пытаньні ўсямернага разьвіцьця пушмехзагатовак, а таксама значнага павялічэньня харчовых і сыравінных рэсурсаў савецкай рэспублікі зьяўляюцца асноўнымі ў задачах паляўнічай каапэрацыі. Гэтымі задачамі (разьвіцьцё пушмехзагатовак, харчовых і сыравінных рэсурсаў краіны) вызначаецца і роля паляўнічай каапэрацыі ў савецкай народнай гаспадарцы.

Уся дзейнасьць сыстэмы за мінулы год была пастаўлена на службу сацыялістычнаму будаўніцтву. Адсюль была неабходнасьць максымальнага напруджаньня ў рабоце сыстэмы ў барацьбе за выкананьне плянаў, праграм і дагавароў.

Рэальнасьць загатоўчых плянаў ня вызвала ніякіх сур'ёзных сумненьняў, сырцовая база забясьпечвала іх без напруджаньня і патрэбна было рашуча дамагацца выкананьня гэтых плянаў.

Як-жа выконвалася гэта баявая праграма работы паляўнічай каапэрацыі—пушмехсыравіне на працягу 1932 г., апошняга году першай пяцігодкі? Вынікі работы сыстэмы ў гэтай галіне зьяўляюцца вельмі слабымі і нездавальняючымі. За выключэньнем 4 кварталу тэмпы загатовак пушмехсыравіны вельмі нізкія, яны далёка не адпавядалі росту сыстэмы і далёка адстаюць ад задач сацыялістычнага будаўніцтва.

У гэтым нумары часопісі, згодна пастановы другога пленуму Белкахотсаюзу ад 9—11 лютага 1933 г., мы заносім на чорную дошку райтаварыства паляўнічых, якія ганебна правалілі плян пушмехзагатовак за 1932 г. З-за іх наша сыстэма выканала гадавы плян па пушніне на 93,1 проц., па мехсыравіне на 74 проц.

Згодна пастановы II-га пленуму Белкахотсаюзу ад 9—11 лютага 1933 г., раённыя таварыствы, якія злачынна правалілі плян пушмехзагатовак, заносяцца **на чорную дошку:**




| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Гомельскі | 49,9 | проц. | 9. | Брагінскі | 42,8 | проц. |
| 2. | Клімавіцкі | 49,1 | „ | 10. | Уваравіцкі | 40,6 | „ |
| 3. | Хойніцкі | 48,8 | „ | 11. | Дубровенскі | 39,8 | „ |
| 4. | Нараўлянскі | 46,8 | „ | 12. | Церахаўскі | 38,2 | „ |
| 5. | Ельскі | 46,6 | „ | 13. | Камарынскі | 32,4 | „ |
| 6. | Кармянскі | 45,9 | „ | 14. | Дрысенскі | 29,3 | „ |
| 7. | Чэрыкаўскі | 45,4 | „ | 15 | Лельчыцкі | 29,3 | „ |
| 8. | Бешанковіцкі | 43,5 | „ | | | | |

У чым-жа хаваюцца сапраўдныя прычыны невыкананьня пляну пушмехзагатовак?

У сувязі з пасьпяхова разгорнутай калектывізацыяй, калгасы сталі асноўным вытворцам ня толькі ў галіне збожжа, але і ў галіне пушмехзагатовак. На пушнамехавым рынку складаецца зусім іншая, новая абстаноўка. Праўда, мы на гэтым рынку яшчэ не змаглі заваяваць сабе належнага месца. У нас яшчэ слабы ўдзел у савецкіх і калгасных базарах. Старыя мэтады работы ў пушмехзагатоўках зьяўляюцца няжыцьцёвымі, няпрыстасаванымі да задач сёнешняга дню.

Гэта асноўная ўмова работы шмат якімі райтаварыствамі паляўнічых не асвоена, а значыць і не праведзена ў жыцьцё. Спроба адмахнуцца ад гэтага адразу і рашуча сказалася на выніках работы.

Сацыялістычныя мэтады работы—контрактацыя сыравіны—у радзе раёнаў скажон тым, што ў пагоні за колькасьцю дагавароў і за сумаю **кантрактацыі** апошняя ператворана ў **фармальна-папяровую справу** (Барысаў—брыгады пазаключалі дагаворы на 500 руб., а выканалі на 17—20 руб.), а не замацована адпаведнымі мерапрыемствамі арганізацыйнага і культурна-масавага парадку.

Праўленьні калгасаў, спэцыяльныя паляўнічыя брыгады, якія заключалі дагаворы з сыстэмай, павінны былі ўключыць у свой вытворча-фінансавы плян абавязкі перад загатаўцелем. Асноўнай масай закантрактаваных калгасаў гэта ня выканана і, ў асноўным, дзякуючы бязьдзейнасьці райтаварыстваў паляўнічых, якія не ўстанавілі з калгасамі штодзеннай увязкі і кіраўніцтва гэтай справай у калгасах.

Спэцыяльныя брыгады з паляўнічых у радзе раёнаў калі і арганізаваны, дык з боку райтаварыстваў ня было зьвернута належнай увагі ў кіраўніцтве імі і на справе—поўны самацёк у рабоце гэтых брыгад; у снабжэньні ахотбояпрыладамі былі перабоі, дзякуючы выключна абыякавымі адносінамі да іх з боку райтаварыстваў паляўнічых, яшчэ да гэтага часу ў радзе раёнаў не ліквідавана абязьлічка ў выдачы агнябояпрыпасаў паляўнічым. Наша сыстэма за мінулы год атрымала амаль у два разы больш агнябояпрыпасаў ў параўнаньні з 1931 г. Трэба пакласьці канец злачынным адносінам да пораху і шроту. Трэба дакладна ведаць каму і за што выдаюцца агнябояпрыпасы, каб яны не апынуліся ў кішэні клясавага ворага. Пленум на гэта зьвярнуў асаблівую ўвагу і прапанаваў выдаваць порах і шрот выключна здатчыкам пушніны і мехсыравіны, якая зьвязана з адстрэлам. За іншыя віды пушніны і мехсыравіны (тхор, крот, вадзяны пацук і інш.) катэгарычна забараніць.

Некаторымі райтаварыствамі слаба праведзена работа па збору асеўшай у паляўнічых пушніны і мехсыравіны, недаацанілі апарату падворнай зборкі, які мае вялізарнае значэньне ў загатоўчай рабоце наогул. А дзе і праводзілася гэтая работа, дык якасьць яе далёка нездавальняючая (ня было адказных заданьняў, плянаў гэтым зборшчыкам, адсутнасьць сацспаборніцтва, абязьлічка ў аплаце і г. д.).

Незабясьпечанасьць сродкамі і перабоі з грашыма, што вельмі дрэнна адбіваецца на загатоўках, у асноўным стварaецца па віне прыймовай базы Саюззаготпушніны, якая затрымоўвае разьлікі з райтаварыствамі паляўнічых па некалькі месяцаў (Мазыр—разьлік ня зроблены быў за 3 месяцы і г. д.), ня гледзячы на тое, што існуючы закон дае поўнае права на атрыманьне разьліку зараз-жа.

Нельга абыйсьці моўчкі і такога становішча, якое стварылася ў некаторых раёнах. Райтаварыствы паляўнічых пры актыўным удзеле заготпунктаў Белпушніны, у многіх выпадках да арганізацыі пушна-мехавога рынку падышлі няправільна, і, ня лічачыся з існуючымі правіламі, праводзілі ў жыцьцё мерапрыемствы, якія звужвалі ролю паляўнічай кааперацыі.

На аснове гэтай няправільнай установкі, як вынік, адыходзілі ад паляўнічай кааперацыі ў радзе раёнаў заключаныя ёю з паляўнічымі контрактацыйныя дагаворы.

Пры разьмеркаваньні ў раёне ўдзельнай вагі ў загатоўках, як сыстэма, у некаторых мясцох зусім ня прымалася пад увагу, па-першае, фактычная ўдзельная вага, якую займае тая ці іншая арганізацыя ў даным раёне, і, па-другое, ня лічыліся абсалютна з вынікамі правядзеньня контрактацыі загатаўцелем да моманту разьмеркаваньня раёнаў—паселішчаў.

У выніку гэтага атрымалася, што наша сыстэма мае амаль усюды сярэднюю ўдзельную вагу, а ня тую, якая фактычна патрэбна для раёну па відах.

Усе гэтыя прычыны зьявіліся тармазамі ў выкананьні нашага пляну за 1932 г.

Асабліва трэба адзначыць нашы чарапашыя тэмпы, абломаўскую непаваротлівасьць у справе загатоўкі другарадных відаў сыравіны. У той час, як па пушніне і мехсыравіне мы з выкананьнем пераваліі за палавіну, дык у справе снабжэньня пралетарскіх цэнтраў мяса-зайцам, мяса-дзічынай, грыбамі і інш. мы ганебна правалілі плян. Па мясазайцу гадавы плян мы выканалі ўсяго толькі на 14,9 проц., мяса-дзічы—6,4 проц., грыбамі—1,4 проц., ягады—1,1 проц., лактэхсыр'ё—3,4 проц., трусінае мяса—26 проц.

Вось гэта тыя паказчыкі, за якія мы цэлы год змагаліся... на месцы. За такую работу нас трэба біць і, у першую чаргу райтаварыствы паляўнічых, якія ня здолелі забясьпечыць бальшавіцкіх тэмпаў у выкананьні ўзятых на сябе абавязкаў перад пралетарскай дзяржавай. Ганьба гэтым 15 райтаварыствам паляўнічых, якіх мы заносім на чорную дошку за зрыў усіх відаў загатовак. Праўленьню Белкахотсаюзу трэба больш сур'ёзна аднесьціся да гэтых райтаварыстваў і прыняць больш рашучыя меры.

У нас дрэнна абстаўць справа з кадрамі. Праўленьню Белкахотсаюзу патрэбна рашуча паставіць пытаньне перад адпаведнымі органамі аб забесьпячэньні раёнаў с т а л ы м і кіруючымі работнікамі сыстэмы паляўнічай кааперацыі; з кораням выкарчаваць спэкулянтаў з паляўнічай кааперацыі.

Яшчэ горш абстаіць справа з паляўнічай гаспадаркай. На сёнешні дзень упарадкавана (праведзена ахотэканамічнае абсьледваньне) усяго толькі 49%, а па спэцыяльнаму ўпарадкаваньню нічога ня зроблена. Бяз вучоту фауны мы ня зможам правільна наладзіць наша прамысловае паляваньне,—гэта, па-першае, а па-другое—значна дапаможам рэальнаму разьмеркаваньню плянаў па загатоўках.

Другі пленум Белкахотсаюзу ўлічыў важнасьць датэрміновага выкананьня пляну 1 кварталу 1933 г. са згоды Упаўнаркамунешторга СССР пры СНК БССР дазволіў паляваньне на лісіцу да 1 сакавіка і аднначасова аб'яўлен ударны 2-х тыднёвік па масаваму адстрэлу зьвера з 15 лютага па 1 сакавіка. Гэты 2-х тыднёвік павінен прайсьці пры масавым удзеле ўсіх паляўнічых, спаборнічаючы брыгада з брыгадай, паляўнічы з паляўнічым.

Другі пленум Белкахотсаюза асаблівую ўвагу зьвярнуў на асваеньне паляўнічымі вясеньніх відаў пушмехсыравіны. У загатоўцы вясеньніх відаў

пушмехсыравіны значную долю займае крот, мярлушка, жарабок і інш. Гэтыя віды пушмехсыравіны нашы паляўнічыя павінны асвоіць і ўзяцца за загатоўку іх як належыць.

У выніку работы сыстэмы за мінулы час першага паўгодзьдзя мы маем прарыў у загатоўках пушмехсыравіны: плян выканан на 50 проц.

Прычыны гэтага прарыву зразумелыя—мы не змаглі па-сапраўднаму арганізаваць загатоўкі, ня было праяўлена дастаткова энэргіі ў гэтай рабоце, мы не пераключыліся на баявыя ўдарныя тэмпы работы, мы недастаткова арганізавалі наўкол сябе на гэту работу ўсю масу паляўнічых. Дапусьціць далейшае паглыбленьне прарыву—мы ня можам і не павінны. Заданьне партыі і ўраду павінна быць выканана без ніякіх адгаворак.

Для забесьпячэньня посьпеха ў рабоце на 1933 год, асабліва 1-га ўдарнага кварталу, неабходна правесьці наступныя асноўныя мерапрыемствы.

1. Дамагчыся праз мясцовыя раённыя арганізацыі правільнага правядзеньня і пераразьмеркаваньня калгасаў паміж загатавіцелямі, выходзячы з фактычнай удзельнай вагі раёну па відах.

2. Штодзенна правяраць выкананьне кантрактацыйных дагавароў, выяўляючы злосных зрыўшчыкаў іх, намагчы ўсе сілы на збор асеўшай пушмехсыравіны.

3. Арганізаваць шырокую кампанію па кантрактацыі пушмехсыравіны ў калгасным і аднаасобным сэктарох, з указаньнем у дагаворы відаў зьвера.

Рашуча ў штодзеннай рабоце весьці ачыстку ад клясава-варожага нам элемэнту і браканьераў.

4. Усіліць тэмпы работы па рэарганізацыі сельячэек у вытворча-прамысловыя брыгады, аказваючы ўсямерную дапамогу апошнім.

5. Максымальна пашырыць загатоўчую сетку сыстэмы, сваячасова забясьпечваючы промтаварамі і ахотбояпрыпасамі.

6. Зараз-жа ўкамплектаваць цалкам кіруючы апарат райтаварыстваў паляўнічых і загатоўчы апарат.

7. Праверыць і даўкамплектаваць апарат зборшчыкаў. Кожнаму зборшчыку даць каляндарныя пляны работ і загатовак, сыстэматычна правяраючы гэтыя пляны.

8. Дабіцца гібкасьці ў манэўраваньні таварамі стымуляваньня, умела разьмяркоўваючы іх па нізоўцы.

9. Шырока разьвіць масава-растлумачальную работу сярод паляўнічых, дамагаючыся стопроцантнага ахопу ўсіх паляўнічых падпіскай на часопісь „Паляўнічы Беларусі". Зьвярнуць асаблівую ўвагу ў гэтай рабоце на масавы адлоў крата, прыцягваючы ў гэту работу ня толькі паляўнічых, але і ўсё працоўнае насельніцтва, асабліва падлеткаў і школьнікаў, заключыўшы з апошнімі дагаворы на адлоў крата.

10. Выканаць плян разьвядзеньня трусаводзтва. Гэта дасьць значную колькасьць мехавой прадукцыі і мяса.

11. Наладзіць узаемадзеяньне паміж загатоўчымі арганізацыямі пушмехсыравіны (Белпушніна, Райзаг) і адзіным фронтам весьці рашучую барацьбу з спэкулянтамі-перакупшчыкамі.

Усе гэтыя асноўныя мерапрыемствы, дэталізаваныя на мясцох і прыменяныя да мясцовых умоў, трэба правесьці ў самым тэрміновым парадку, выкарыстоўваючы для гэтага ўсе сілы, сродкі і магчымасьці.

**Плян першага кварталу 1933 г. павінен быць перавыканан!**

Непаваротлівасьць, санлівасьць, бяз'ініцыятыўнасьць сыстэмы трэба замяніць баявымі бальшавіцкімі тэмпамі ў рабоце. Рашучая перабудова ўсей работы, мабілізацыя і ўкамплектаваньне апарату, увядзеньне чоткай адказнасьці кожнага работніка за даручаную справу, выкарыстаньне паляўнічага актыву, уцягваньне ў работу сыстэмы грамадзкасьці і забесьпячэньне сапраўднага кіраўніцтва работай брыгад, апарата зборшчыкаў і г. д.—зьяўляюцца абавязковай задачай сыстэмы на сёнешні дзень.

Наладзіць сыстэматычны вучот кантрактацыйных дагавароў і праверку выкананьня іх, прымаючы ўсе меры ўзьдзеяньня да тых, якія злосна ўхіляюцца ад выкананьня дагавора.

Узначаліць і ўсямерна садзейнічаць сацспаборніцтву і ўдарніцтву.

Сыстэма паляўнічай каапэрацыі мае ў сябе вялікі станоўчы фактар—гэта вялікі актыў паляўнічых, апіраючыхся на якіх, і трэба весьці барацьбу за выкананьне пляну.

Дамогшыся поўнага садзейнічаньня мясцовых раённых арганізацый, улічваючы адказныя задачы, ускладзеныя на паляўнічую каапэрацыю, патрэбна рашуча зжыць усе недахопы, перабудавацца па-баявому і выканаць усе абавязкі перад дзяржавай.

**Датэрмінова выканаць плян 1-га кварталу 1933 г.—першага году II-й пяцігодкі, пяцігодкі пабудовы бясклясавага грамадзтва!** **Р. К.**

# Выбрацца з апартуністычнага балота

(*Лельчыцкі раён*)

Пасьля другога допісу ў часопісі „П. Б." работа райтаварыства пачынае перабудоўвацца. Тав. Сячко склаў плян працы праўленьня, хоць гэты плян сухі.

Снабжэньне боепрыладамі паляўнічых палепшылася: порах, шрот і прамтавары выдаюцца выключна здатчыкам пушніны па існуючых нормах.

Лепшыя паляўнічыя вельмі дзякуюць часопісі „Паляўнічы Беларусі", які абудзіў ад сну праўленьне райтаварыства паляўнічых і яго старшыню тав. Сячко.

Мы маем нязначныя дасягненьні ды й мець большых не маглі пры такой рабоце старшыні праўленьня. Наш плян пушмехзагатовак за 1932 г. выканан усяго толькі на 29,3 проц.

Гэтую пляму мы павінны змыць, даказаць, што мы здольны і ўмеем працаваць. Для гэтага неабходна праўленьню па-баявому ўзяцца за працу і, каб больш ня быць на старонках часопісі ў ліку ганебна адстаючых, завесьці кнігу выдачы агнябоеприлад і прамтавараў, з мэтай выяўленьня лепшых здатчыкаў пушніны і мехсыравіны, выконваць пляны. Гэта значна палепшыць работу ў барацьбе з браканьерствам; прэміяваць лепшых паляўнічых—здатчыкаў пушніны і мэхсыравіны.

**Кайдан.**

# Максымум увагі загатоўцы вясеньніх відаў пушмехсыравіны

Вясеньнія віды пушніны і мехсыравіны зьяўляюцца сырцом для нашай растучай мехавай прамысловасьці і экспартам. Пасьпяховае выкананьне і перавыкананьне пляну гэтых загатовак зьявіцца адным з магутных вагароў пасьпяховага далейшага будаўніцтва сацыялізму ў нашай краіне.

Аналізуючы работу сыстэмы за мінулыя гады мы бачым, што гэтыя загатоўкі, з прычыны недаацэнкі іх ролі, былі вельмі нязначнымі і рад відаў каштоўнага зьвярка (крот) здабываўся надзвычай слаба. Але крот, у сілу сваёй высокае якасьці шкуркі, з кожным годам пачынае пераламляць погляд загатоўчых арганізацый. Калі ў 1927 г. усе загатоўчыя арганізацыі (Белкахотсаюз, Белпушніна, Белкаапсаюз) загатовілі 10 тысяч штук, дык у 1930 г. ужо загатоўлена 200 тысяч штук, а ў 1932 г.—751 тыс. штук. Рост гэтых загатовак наша сыстэма паказвае далёка нявыстарчальны. Ею не праводзілася работа па найбольшаму асваеньню промыслу гэтай пушніны.

Удзельная вага крата ў загатоўках 1932 г. займала 40 проц. ад усіх відаў загатовак, а плян па крату выканан у 1932 г. на 50 проц. Гэтым самым невыкананьнем пляну па крату мы зьнізілі і агульны плян загатоўкі пушмехсыравіны. Адсюль вынікае, якую вялікую ролю грае загатоўка крата ў агульнагадавым пляне загатовак. А ў агульным пляне загатовак на 1933 год крот займае першае месца, удзельная вага якога складае 55 проц.

Нам неабходна зараз-жа заняцца падрыхтоўчай работай па адлову крата і інш. вясеньніх відаў пушмехсыравіны. Мінулагоднім настроям не павінна быць месца сярод кіраўнікоў райтаварыстваў паляўнічых, якія лічылі, нібы-та, гэту справу непадыходзячай да іх твару. І такім разважаньням, як „у нашым раёне няма кратоў і ня наша справа займацца яго адловам“ трэба пакласьці канец раз назаўсёды.

Адловам крата можа і павінен займацца кожны грамадзянін, як гораду, так і вёскі. Крот ёсьць усюды—у горадзе—у садох, гародах, ля рэчак, а ў вёсцы ён сустракаецца ў вялікай колькасьці па гумнах, садох, гародах, сенажацях, полі і дзе хочаш. Шкодна думаць, што адловам крата павінен займацца толькі паляўнічы. Адловам крата можа займацца сям'я кожнага грамадзяніна: жонка, дзеці, толькі знаючаму гэту справу трэба паказаць ім тэхніку лова гэтага каштоўнага зьвярка.

Адлоў крата не займае спэцыяльнага часу. Паляўнічы **Зайцаў Адам** з вёскі Зімніца, Шчэжарскага сельсавету, Магілеўскага раёну так працаваў па адлову крата:

— Звычайна, будучы на палявых работах, на сенажаці, ідучы так яшчэ куды-небудзь, я браў з сабою краталоўкі, дзе бачыў сьвежа нарытыя кучкі зямлі кратом, тут-жа ставіў краталоўку. Асабліва добрыя вынікі я атрымоўваў тады, калі ставіў краталоўку нанач і пасьля ночы я здымаў з большай паловы краталовак шэрыя бліскучыя кратовыя скуркі.

Такім мэтадам лова крата можа займацца ня толькі Зайцаў Адам, а можа займацца і жонка яго і дзеці і кожны працоўны.

Улічваючы надзвычай вялікую важнасьць загатоўкі кратовых скурак і наогул усіх вясеньніх відаў, вядучы рашучую барацьбу з недаацэнкай гэтых каштоўных скурак, у 1933 годзе неабходна правесьці наступныя мерапрыемствы па райтаварыствах паляўнічых:

1. Забясьпечыць сапраўдную арганізацыю адлову крата па калгасах, паляўнічых брыгадах і ўсяго працоўнага насельніцтва.

2. Давесьці пляны заданьня па вясеньніх відах пушмехсыравіны шляхам контрактацый да кожнай брыгады, групы, да кожнага асобнага паляўнічага і г. д.

3. Ахапіць загатоўчыя пляны контрактацыйнымі дагаварамі і сыстэматычна правяраць выкананьне абавязкаў па контрактацыйных дагаварох.

4. Увязаць работу са школамі, піянэратрадамі, станцыямі „ТБШ“ (таварыства барацьбы са шкоднікамі сельскай гаспадаркі), шляхам арганізацыі і стварэньня ў калгасах, школах, піянэратрадах з дзетвары, жанчын і падлеткаў спэцыяльных брыгад па здабычы шкоднікаў сельскай гаспадаркі.

На месцы заключаць контрактацыйныя дагаворы, разьмяркоўваць заданьні паміж брыгадамі і даводзіць плян да кожнага асобнага члена брыгады, разьвіваючы ўдарніцтва і сацспаборніцтва.

5. У мэтах зацікаўленасьці школьнікаў і падлеткаў у выкананьні контрактацыйных дагавароў, райтаварыствы паляўнічых павінны ўзяць на сябе абавязкі па забесьпячэньні іх супроць зданай сыравіны вучэбнымі прыладамі, спортінвэнтаром, спортвопраткай і інш.

6. Без правядзеньня належнай работы па арганізацыі самога промыслу і штодзённага рэальнага кіраўніцтва ім ня могуць быць разьвіты належныя тэмпы. Пасіленьне здабычы павінна ісьці па лініі папулярызацыі мэханізацыі здабычы вясеньніх відаў пушніны (капканы, краталоўкі).

7. Разгарнуць сярод насельніцтва і ў асаблівасьці ў школах, піянэратрадах, брыгадах дзетвары і падлеткаў растлумачальную работу, знаёмячы з мэтадамі зьёмкі, праўкі і кансэрвіроўкі скурак вясеньняй пушніны.

8. Здабычу вадзяных пацукоў пачаць адразу пасьля таго, як нусьцяць рэкі, а суслік—самай раньняй вясной. У гэты час скуркі гэтых зьвяркоў маюць найвышэйшую якасьць.

9. Здабычу крата трэба ўтвараць на працягу вясны, лета і восені, дабіваючыся максымальнага выкарыстаньня ўсіх магчымасьцяй загатоўкі гэтага каштоўнага сырцовага матар'ялу.

10. Адстрэл усіх драпежнікаў, бадзячых сабак і катоў праводзіць на працягу ўсяго году.

Такім чынам, рашуча павёўшы барацьбу з драпежнікамі і шкоднікамі ўсіх відаў сельскай, паляўнічай і лясной гаспадаркі, здаючы іх скуркі ў кааперацыю, мы павялічым прадукцыйнасьць паляўнічага промыслу, падымем ураджай сельскай гаспадаркі і пазбавімся ад шкоднікаў і драпежнікаў.

Бальшавіцкімі тэмпамі работы забясьпечым посьпех выкананьня і перавыкананьня пляну па вясеньніх відах пушмехсыравіны.

С—л.

# АБ ЛОЎЛІ КРАТОЎ

## І ЗНАЧЭНЬНІ ЯГО СКУРЫ

Крот адносіцца да вясеньніх відаў пушніны таму, што з надыходам вясны, як толькі сьнег сыдзе з палёў, крот пачынае рухацца ў сваіх падземных ходах і часта паказваецца на зямлі. У гэты час лёгка вызначыць месцазнаходжаньне крата і тады лёгка яго ўлавіць.

За зімовы пэрыяд часу крот абрастае валасамі і пухам і да пачатку вясны большай часткай скурка яго адносіцца да 1 гатунку.

Крот водзіцца ўсюды: па дварох, гародах, палёх, лясох, па чыгуначным палатне і г. д.

Месцазнаходжаньне крата вызначаецца надземнымі копчыкамі, якія ўтвараюцца з зямлі, якую крот выкідае пры ачышчэньні сабе падземных ходаў. Гэтыя копчыкі мы часта сустракаем у паказаных вышэй мясцох. Самы лёгкі і верны спосаб лоўлі крота, гэта пры дапамозе драцяных краталовак, якія можна дастаць ва ўсіх заготпунктах і загатоўчых арганізацыях.

Лоўля крота мае некаторыя асаблівасьці супроць лоўлі другіх відаў пушніны тым, што, па-першае, кратоў у Беларусі ёсьць нязьлічаная колькасьць, па другое—гэты промысел даступны як дарослым, так і падлеткам, як мужчынам, так і жанчынам, па-трэцяе—ён не патрабуе вялікай затраты часу. Прыблізна за поўгадзіны да пачатку палявых работ патрэбна расстаўляць краталоўкі ў намечаныя раней месцы і пасьля работы зьбіраць іх са здабычай. Зьёмка скуры працягваецца ўсяго некалькі хвілін.

Усе краталовы павінны знаць адно, што станоўчыя вынікі ад гэтага віду промысла яны атрымаюць толькі тады, калі асаблівую ўвагу зьвярнуць на якасную апрацоўку яго скуры. Для гэтага патрабуецца зусім нямнога, г. зн. перад зьёмкай скуры трэба абрэзаць лапкі, зрабіць роўны разрэз вострым нажом па сярэдзіне жывата ўздоўж ад галавы да хваста, зьняць скуру без разрываў, ачысьціць яе ад мяса, тлустасьці, жыл. Выпраўляць скуру, каб не заставалася зморшчак, прышчапіць яе да дошкі шпількамі альбо тоненькімі цьвікамі па бакох мяздрою ўверх, але не расьцягваць, а перад гэтым загладжваць валасы ўніз і высушыць пры хатняй тэмпэратуры, або на паветры.



Прыём прыбыўшай пушмехсыравіны з Быхава, Чачэрску, Нароўлі, Слуцку і інш. раёнаў (база Саюзпушніны).

У ценьку ўсе гэтыя працэсы працягваюцца ўсяго некалькі хвілін, а ў выніку атрымоўваем добраякасную скуру. Загатоўка крата ў БССР мае асабліва значэньне таму, што ён як колькасна, так і сумарна займае першае месца ў нашым пушным пляне, удзельная вага яго складае 55 проц.

У 1933 годзе па БССР мы павінны па пляну загатовіць 1.635 тысяч кратоў. Гэты плян зусім



Прасушка пушмехсыравіны (база Саюзпушніны).

рэальны і мы зможам яго лёгка перавыканаць, калі зьвернем належную ўвагу гэтаму віду экспарта. Кратоў у БССР, як сказана вышэй—нязьлічаная колькасьць, трэба толькі сваячасова і энэргічна ўзяцца за яго здабычу.

Пры дапамозе павялічэньня здабычы кратоў і павышэньня якаснай апрацоўкі яго скуры—мы павялічваем экспарт, за кошт чаго мы зможам скараціць экспарт тых прадметаў, якія нам у гэты час больш патрэбны. Гэту абставіну павінен улічыць кожны калгасьнік і працоўны селянін Савецкага Саюзу.

Таму, з наступленьнем веснавой кампаніі па сяўбе неабходна, каб калгасьнік і працоўны аднаасобнік, камсамолец, піянэр і школьнік моцна памяталі, што лоўля крата супадае з пасеўнай веснавой кампаніяй і што гэты від экспарта мае таксама вялікае значэньне для ўсяе нашае сельскае гаспадаркі, займаючыся гэтай справай у вольныя часы ад працы.

Белкахотсаюзам і Белпушнінай арганізуюцца спэцыяльныя курсы для падрыхтоўкі інструктароў па лоўлі кратоў, якія па сканчэньні іх будуць ва ўсіх раёнах інструктаваць насельніцтва па лоўлі кратоў. У мэтах стымуляваньня загатоўкі кратоў у гэтым новым годзе цана павышана да 60 кап. за скуру 1-га гатунку.

Лепшыя краталовы па колькасьці і якасьці будуць прадстаўлены да прэміяваньня.

Эліксон.

# З ЛІСТОЎ ПАЛЯЎНІЧЫХ — РАБСЕЛЬКОРАЎ

## Старшыня, вазьміся за работу!

*(Рэчыцкі раён)*

У параўнаньні з працай іншых райтаварыстваў, аб якіх пісалася на старонках „П. Б.", па нашаму райтаварыству маюцца свае дасягненьні: крама ў нас працуе штодзенна ад 9 гадзін раніцы да 7 гадзін вечара, абязьлічка ў забесьпячэньні боеприладамі ліквідавана, вучот паляўнічай зброі заведзен яшчэ з 1931 г. Плян мабілізацыі сродкаў выканан у 1932 г. на 150 проц., зборы па эстафеце на падводную лодку і на эскадрылю самалётаў праведзены пасьпяхова, падпіскай на часопісь „П. Б." і „Охотничью газету" ахоплена 70 проц. паляўнічых.

Плян па пушмехзагатоўках на 1932 г. у суме 5500 руб. быў павялічан сустрэчным плянам да 9 тыс. руб. і выканан амаль на 100 проц. Хаця ў другім і трэцім кварталах былі прарывы, але чацьверты квартал пакрыў іх, ня гледзячы на цяжкасьці ў зьвязку з некаторай адсутнасьцю агнябоеприладаў і прамтавараў.

Значна дапамагла гэтаму выкананьню перарэгістрацыя паляўнічых на 1933 г., дзе з выездам па ячэйках разам з рэгістрацыяй праводзілася і масава-растлумачальная работа. Гэта паказвае на тое, што раней такая работа адсутнічала.

Адным з адмоўных бакох зьяўляецца наступнае:

Хаця пастановы праўленьня аб выезьдзе ў раён старшыні праўленьня т. Сасноўскага і былі не адзін раз, але наш старшыня выяжджаў толькі туды, дзе можна было пастраляць па качках альбо па зайцох. Такіх ячэек, дзе бываў т. Сасноўскі на працягу ўсяго году, можна налічыць каля дзесяці, а астатнія дванцаць—бяз руля і бяз ветрыл. Сярод іх ёсьць яшчэ і такія ячэйкі, у якіх некалькі год падрад ня было перавыбараў і ніхто з праўленьня туды і носу не паказаў.

Ці можна-ж было чакаць ад такіх ячэек выкананьня пляну пушмехсыравіны, альбо іншай працы? Вядома не, бо пляны загатовак да ячэек не даводзіліся.

Праўленьню патрэбна ўлічыць усе памылкі ў працы за 1932 г. і ўдарна ўзяцца за выкананьне пляну 1933 г. — першага году другой пяцігодкі, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на перавыкананьне пляну I кварталу 1933 г. і рэарганізацыю паляўнічых ячэек у вытворча-прамысловыя брыгады.

**Закрэўскі.**

## Зрушыць з месца работу

На працягу 4 кварталу 1932 г. праўленьне Белкахотсаюзу і яго сэктары дамагаліся ад сваёй сыстэмы прадстаўленьня зьвестак па ўстаноўленых формах па загатоўках пушмехсыравіны, мяса-дзічы, лектраў, грыбоў, пухпяра, ягад, трусагадоўлі і арганізацыі культасьветнай работы, але гэтыя дамаганьні засталіся бяз вынікаў. Шэраг райтаварыстваў паляўнічых ня толькі не даюць патрэбных зьвестак, пералічаных вышэй, але нават не даюць знаць і аб сваім існаваньні.

Вось прыклад: Слуцкае, Нараўлянскае, Вузьдзенскае, Лёзьненскае, Менскае, Парыцкае, Старобінскае, Хойніцкае, Цэрахаўскае, Чачэрскае, Чырвонапольскае і Чэрыкаўскае таварыствы не далі ніякіх зьвестак аб сваёй рабоце.

Бязумоўна, такое зьявішча надалей было не цярпіма і праўленьню Белкахотсаюзу прышлося да гэтых райтаварыстваў прыняць меры ўзьдзейнічаньня. Прэзыдыум праўленьня Белкахотсаюзу вынёс сваю пастанову аб прыцягненьні да адказнасьці ў адміністрацыйным парадку — штрафу, наступных старшынь райтаварыстваў: Слуцкага, Вузьдзенскага і Нараўлянскага па 25 руб. кожнага. Старшыням Лёзьненскага, Менскага, Парыцкага, Старобінскага, Хойніцкага, Цэрахаўскага, Чачэрскага, Чырвонапольскага і Чэрыкаўскага райтаварыстваў вынесена вымова з абвяшчэньнем ў часопісі „Паляўнічы Беларусі".

Адносна Вузьдзенскага райтаварыства, акрамя штрафу старшыні праўленьня, пастаноўлена хадайнічаць перад упаўнаважаным Наркамзамежгандлю СССР пры СНК БССР аб роспуску гэтага праўленьня за сыстэматычную бязьдзейнасьць і перадачы ўсёй маемасьці, спраў і грошай Койданаўскаму райтаварыству, у якое павінны ўліцца ўсе паляўнічыя Вузьдзенскага райтаварыства. Бо колькі чаго не прымянялі да гэтага райтаварыства, яно на працягу апошніх гадоў лічыцца самым горшым ва ўсёй нашай сыстэме і зьяўляецца зусім мёртвым і нявдольным далей працаваць.

Гэтыя меры ўзьдзейнічаньня павінны ўрэшце ажывіць работу райтаварыстваў паляўнічых.

**П—ро.**



У час адпачынку паляўнічыя вучаць сабаку.

Цана 40 кап.

# Кампанія Баранава

*(Лёзьненскі раён)*

Пры нашым райтаварыстве маецца саўгас „Лысая гара“ з трусагадоўчым ухілам. Дастаўся ён таварыству ў 1932 г. па спадчыне ад Белкахотсаюзу, які потым аб ім забыў. Забылі ўсе. Забыў і Белкахотсаюз, пазбавіўшы саўгас свайго жывога інструктажу, забыў і РВК.

Забыла аб ім і само таварыства паляўнічых. А між тым у саўгасе справа абстаіць так:

У сакавіку м-цы 1932 г. было 260 трусоў, набыта для ўкамплектаваньня стада за весну і лета 200 шт., атрымана прыплоду 800 шт., а на сёнешні дзень засталося ўсяго... 120 штук. Трусы дохнуць. Часткова ад хваробы, але больш усяго ад голаду і дрэннага догляду.

Ня лепш справа абстаіць і з сельскагаспадарчай жывёлай; коні ледзь стаць на нагах; сабакі адказваюцца сьцерагчы гаспадарку таксама з-за голаду, але затое чалавечы штат саўгасу папраўляецца. І ня дзіва: удой ад 4-х кароў амаль цалкам разьмяркоўваецца паміж саўгасаўцамі, ня гледзячы на тое, што яны маюць уласных кароў і сьвіней. Ім і ўплывае частка казённага корму, а саўгасная жывёла недаядае.

Ведаючы аб гэтым, старшыня райтаварыства паляўнічых **Баранаў** аднак ня прымае ніякіх мер, каб выжыць усё гэта. Нават пасьля пашыранага пленуму праўленьня ад 7 жніўня 1931 г., дзе было пастаноўлена зьняць з работы заг. саўгасу **Сапегу** і трусавода **Галубоўскага** за безгаспадарчасьць, **старшыня Баранаў ня прыняў нічога**, каб ажыцьцявіць пастанову пленума.

Старшыня Баранаў ня толькі забыў саўгас, але здаецца наогул забыў аб гаспадарчай, культурнай і арганізацыйнай рабоце ў райтаварыстве. Да гэтага часу паляўнічыя ячэйкі яшчэ ня рэарганізаваны ў брыгады ці групы, не арганізавана ні адна брыгада па адстрэлу драпежнікаў, не заключаны дагавары на загатоўках на 1933 г., ня выканан плян загатовак пушмехсыравіны за 1932 г. І ня дзіва, бо здаваць яе няма куды: паляўнічы магазын заўсёды на замку, загадчык магазынам, **Сяргеенка** заняты сваімі справамі, але толькі не па загатоўках пушніны. І так паляўнічыя ля зачыненых дзьвярэй магазына прастойваюць па некалькі гадзін, а потым нясуць здаваць пушніну ў іншыя загатоўчыя арганізацыі.

Прыгледзімся бліжэй хто такі Сяргеенка? Ён сын кулака, які даўно атрымаў па заслугах 2 гады пазбаўленьня волі за зрыў хлебазагатовак, але Сяргеенка — сын трымае з ім моцную сувязь. Сам Сяргеенка — аднаасобнік, мае 5 *га* зямлі, каня, карову, сьвіней, авец. Колькі і як не нажымаў сельсавет, каб Сяргеенка Е. здаў збожжа, ён усё-ж такі ня здаў, а кінуў свой хутар і перавёз усю маемасьць у м. Лёзна.

Зразумела, што ад чужога нам элемэнту чакаць зацікаўленнасьці ў выкананьні плянавых загатовак нельга. Есьць скаргі ад паляўнічых у праўленьні райтаварыства аб няправільнай прыёмцы пушмехсыравіны, выдачы прамтавараў, але на Баранава гэтыя скаргі дзейнічаюць, як на гуся вада.

Рэўкамісія, здаецца табе ўжо даўно пара абудзіцца ад паўтарагадовай сьпячкі і ўзяцца за справу, дакладна праверыць усю дзейнасьць Лёзьненскага райтаварыства і вывесьці на чыстую ваду ўсю гэту „кампанію“.

**Паляўнічы.**

## ЗАГАТАВІЦЕЛЬНЫЯ ЦЭНЫ

**на пушніну і мехавую сыравіну на 1-ы гатунак. Уводзяцца з 1 лютага 1933 году.**

| №№ па парад. | Назва відаў | Цана на I гатун. Руб. | Цана на I гатун. Кап. |
|---|---|---|---|
| | **Пушніна** | | |
| 1 | Барсук | 6 | — |
| 2 | Белка | 1 | 10 |
| 3 | Воўк лясны | 55 | — |
| 4 | „ стэпу | 40 | — |
| 5 | Заяц-бяляк | — | 85 |
| 6 | „ шарак | — | 85 |
| 7 | Куніца мяккая | 65 | — |
| 8 | „ горская | 50 | — |
| 9 | Ласка | — | 80 |
| 10 | Лісіца | 42 | — |
| 11 | Норка | 25 | — |
| 12 | Рысь | 65 | — |
| 13 | Тхор чорны | 9 | — |
| 14 | Крот | — | 60 |
| 15 | Пацук вадзяны | — | 40 |
| 16 | Сусьлік | — | 40 |
| 17 | Соняк-пальчак | — | 50 |
| 18 | Хамяк звычайны | — | 75 |
| 19 | „ чорны | 1 | — |
| | **Мехсыравіна** | | |
| 1 | Кошка хатняя | 3 | — |
| 2 | Трус мехавы: | | |
| | а) белы велікан, бельгійскі, шэншыл | 5 | 50 |
| | б) венскі галубы і шампань | 4 | 40 |
| | в) венск. белы і інш. пароды | 3 | 30 |
| 3 | Трус пухавы | 2 | 75 |
| 4 | Сабака мех | 4 | 20 |
| 5 | Жарабок каляровы | 6 | 50 |
| 6 | „ чырвоны | 5 | 20 |
| 7 | Мярлушка руская | 1 | 75 |
| 8 | Козьлік мехавы | 1 | — |

**Упаўнаважаны НКЗГ па БССР ФЛІОР.** **Пушмехгрупа ШМУКЛЕР.**

Здана ў набор—25/II-33
Падпісана да друку—4/III-33
Набірала брыгада т. Нячаева
Вышла з друку—9/III-33
Адказны карэктар друкарні А. Мацкевіч

Рэдкалегія: **Волдынь, Вільдфлуш, Кутылоўскі і проф. Федзюшын.**

Адказны рэдактар: **А. Вільдфлуш.**

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 700. 12000 экз. Мен. Гарліт № 1336.